№ 4 (4051)

www.nv-online.info

15 студзеня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**СРАВНИМ!**

## Беларусь – лидер по числу министерств

Сегодня в Беларуси функционируют 24 министерства (без учета госкомитетов). И по этому показателю, похоже, с нами не может соперничать ни одна страна в мире. Причем министерств меньше даже в тех странах, которые значительно превышают Беларусь по населению, – России, Германии, Польше, Франции. Даже в Китае, где живет 1,3 млрд человек, работают только 22 министерства. Уникальна Беларусь и в том, что с советских времен в стране сохранились министерства информации и торговли. Такие ведомства в чистом виде уже давно не существуют даже у наших партнеров по Таможенному союзу – России и Казахстане.

Итак, сколько же министерств в других странах?

| Страна | Количество министерств | Население (млн человек) |
|---|---|---|
| **Беларусь** | **24** | **9,3** |
| Россия | 21 | 146,2 |
| Польша | 19 | 38,4 |
| Украина | 16 | 42,9 (без учета населения Крыма и г.Севастополя) |
| Литва | 14 | 2,9 |
| Германия | 14 | 79,7 |
| Франция | 14 | 67 |
| Чехия | 14 | 10,4 |
| Латвия | 13 | 2 |
| Великобритания | 13 | 65 |
| США | 15 (министерства в США называются исполнительными департаментами) | 326,5 |
| Япония | 11 | 126,1 |

У наших соседей – поляков, украинцев, россиян – заместители премьер-министра одновременно возглавляют и министерства. Например, вице-премьер Украины Вячеслав Кириленко является министром культуры, а вице-премьер Геннадий Зубко – министром регионального развития, строительства и ЖКХ Украины. В Польше заместители главы правительства возглавляют Министерство культуры и национального наследия (Петр Глиньский), Министерство развития (Матеуш Моравецкий) и Министерство науки и высшего образования (Ярослав Говин). У белорусского премьера пять заместителей, и ни один из них не является министром по совместительству: каждый курирует работу определенных министерств.

В августе 2014 года серьезной реформе подвергся Кабинет министров Казахстана. «*Без госаппарата никто не обходится, ни одна страна. Он должен быть. Но такой неповоротливый чиновничий аппарат тормозит развитие*, – возмутился тогда президент Казахстана Нурсултан Назарбаев. – *Я принял решение о новой структуре правительства*». И вместо 17 министерств в Казахстане осталось 12. Сокращение проходило в основном за счет объединения ведомств (и, следовательно, сокращения штатов чиновничьего аппарата). Например, Министерство по чрезвычайным ситуациям было объединено с МВД, вместо Министерства здравоохранения и Министерства труда и социальной защиты создано Министерство здравоохранения и соцразвития. Перестало существовать в Казахстане Министерство окружающей среды, Министерство транспорта. Они также были включены в другие ведомства – Министерство энергетики и Министерство по инвестициям и развитию.

Что мешает перенять этот опыт Беларуси?

– *В Беларуси функционирует административная экономика*, – высказывал свое мнение в интервью telegraf.by экс-глава Нацбанка, профессор экономики Станислав Богданкевич. – *И при такой экономической модели просто необходимо большое количество административных ресурсов и структур. В рыночной экономике бюрократии значительно меньше. Там не допускается ее вмешательство в бизнес. Поэтому там и нет необходимости в таком количестве структур, причем не только на уровне министерств, но и на уровне областей, районов*».

**ЦИТАТА В ТЕМУ**

## Александр ЛУКАШЕНКО: «Я не готов по данному направлению принимать решение»

Руководитель Беларуси тему сокращения количества министерств в нашей стране затрагивал нечасто. Последний раз – в 2013 году, когда им же был подписан указ о сокращении **численности сотрудников госорганов в среднем на 25%. Тогда** Александр Лукашенко заявил, что не готов к сокращению каких-либо министерств и ведомств и больше к этому вопросу не возвращался:

*«Что касается сокращения отдельных органов, министерств, ведомств, честно говоря, я не готов по данному направлению принимать решение. Надо еще раз посоветоваться с правительством и другими... Надо нам в какой-то степени отойти от этих рыночных теоретических рассуждений, а исходить из конкретных задач и ситуаций, которые складываются у нас в стране, и если министерства работают неэффективно, в том числе названные* (Министерство торговли и Министерство ЖКХ. – **М.Э.**) *– я с вами абсолютно здесь согласен, – ну так надо их озадачить так, чтобы они вертелись, крутились и решали те проблемы, которые сегодня волнуют людей»*.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

**ГАЗЕТА–ЧЫТАЧЫ**

## Падпіску на «Народную Волю» можна працягнуць у любы дзень

Не-не ды і раздаецца тэлефонны званок: "Перад Новым годам не атрымалася, а цяпер хачу падпісацца на "Народную Волю". Ці не адмовіць пошта?"

Не, не адмовіць. Калі Вы наведаеце бліжэйшае паштовае аддзяленне да 27 студзеня і аформіце падпіску, то ўжо з 1 лютага будзеце атрымліваць "Народную Волю".

Самі вызначаеце любы тэрмін – на месяц, два, тры, чатыры, пяць. Падпіска на II паўгоддзе распачнецца крыху пазней, будзе дадатковая інфармацыя.

**Рэдакцыя.**




**ЗА ПРАХАДНОЙ**

## На «Амкадоры» да канца месяца па пятніцах працаваць не будуць

Закончыліся зімовыя вакацыі ў сталічных прадпрыемствах. З панядзелка пачаліся працоўныя будні.

Мінскі аўтамабільны завод, які яшчэ да вымушанага адпачынку працаваў няпоўны тыдзень, а некаторыя цэхі – увогуле па тры дні, цяпер працуе поўны тыдзень з выхаднымі ў суботу і нядзелю.

Такая ж сітуацыя і на Мінскім трактарным заводзе.

Пра гэта "Народнай Волі" паведамілі і на саміх прадпрыемствах, і ў Міністэрстве прамысловасці.

Крыху іншая сітуацыя на прадпрыемстве, якое раней трымалася значна лепш за МАЗ і МТЗ, – "Амкадоры". Там да канца месяца не будуць працаваць па пятніцах. Прычына – зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці. Што тычыцца наступнага месяца, то адміністрацыя кожны тыдзень будзе прымаць рашэнне наконт працягласці таго ці іншага працоўнага тыдня.

**Любоў ЛУНЁВА.**

**АФІЦЫЙНА**

## Беларусам у Год культуры абяцаюць гучныя прэм'еры

2016 год абвешчаны Годам культуры, у сувязі з чым у краіне пройдуць гучныя прэм'еры і творчыя святы. Аб гэтым паведаміў намеснік міністра культуры **Васіль Чэрнік.**

«*Адзначу, што ў мерапрыемствах, звязаных з правядзеннем Года культуры, задзейнічаны ўсе дзяржаўныя органы,* – расказаў Васіль Чэрнік. – *Акрамя таго, хацеў бы расказаць яшчэ аб адным мерапрыемстве – у Маладзечне 5 лютага адбудзецца вялікі канцэрт, горад афіцыйна стане культурнай сталіцай Беларусі 2016 года*».

Бягучы год будзе юбілейны для многіх падзей. Напрыклад, у студзені беларусы будуць адзначаць 95-годдзе з дня нараджэння Івана Шамякіна, у сакавіку – 120-годдзе з дня нараджэння Кандрата Крапівы, у снежні – 125-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча. У Год культуры пачнецца падрыхтоўка мерапрыемстваў да святкавання ў 2017 годзе юбілейных дат з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.

У ліпені 2016 года 25-гадовы юбілей адзначыць і фестываль «Славянскі базар у Віцебску».

**ПРАЕКТ**

## Каб пабачыць Тракайскі замак, трэба будзе ехаць у Гальшаны...

У гэтым годзе ў Ашмянскім раёне з'явіцца новы турыстычны аб'ект. Недалёка ад Гальшан фонд «Краіна замкаў» пры фінансавай падтрымцы ПРААН плануе пабудаваць першы беларускі парк мініяцюр.

На тэрыторыі ў 2,5 гектара да жніўня гэтага года ўзвядуць макеты дзесяці сярэднявечных замкаў у маштабе 1:25. Калі ўлічыць рэльеф, падсыпку і горкі, то турысты будуць гуляць паміж замкамі прыкладна ў чалавечы рост.

У парку будзе прадстаўлена беларуская замкавая «класіка» – Мірскі, Навагрудскі, Лідскі, Крэўскі замкі, а таксама Віленскі, Тракайскі, Мядзінінкайскі, паколькі паводле задумы аўтараў беларускі парк мініяцюр «Краіна замкаў» – гэта не Беларусь, а Вялікае Княства Літоўскае.

У турыстаў, дарэчы, будзе магчымасць паглядзець у Гальшанах на аўтэнтычныя руіны, а потым параўнаць з тым, якім быў гэты замак, убачыўшы яго макет.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

**УВАГА!**

## Ва Украіне паміраюць ад грыпу

Навіны з суседняй дзяржавы насцярожваюць. Там фіксуецца свіны грып, той самы, які ў 2009 годзе, паводле некаторых дадзеных, стаў прычынай смерці больш як 100 чалавек у Беларусі. На 10 студзеня 2016 года ва Украіне паводле афіцыйных дадзеных памерлі 25 чалавек, а паводле неафіцыйнай інфармацыі іх лік перавышае 50. Усяго ва Украіне зарэгістравана 2,2 млн выпадкаў захворвання на грып і ВРВІ. Прычым больш хварэе жыхароў Кіева і вобласці, а таксама на ўсходзе краіны, гэта значыць ля мяжы з Беларуссю, хаця смерці часцей фіксуюцца ў Адэскай вобласці.

Ці трэба беларусам баяцца свінога грыпу?

У Міністэрстве аховы здароўя супакойваюць. У нашай краіне зараз адзначаецца нізкі ўзровень актыўнасці ВРВІ. Марознае надвор'е не дае развівацца вірусу, і, паводле прагнозаў сіноптыкаў, мінусавая тэмпература пратрымаецца і ў бліжэйшыя дні. Да таго ж не першы год насельніцтва краіны актыўна прышчапляецца ад грыпу. У 2015 годзе прышчэпку зрабілі каля 42% беларусаў. Ва Украіне, для параўнання, прышчэплена менш за адзін працэнт насельніцтва.

– *У склад вакцыны ўваходзяць 3 штамы віруса грыпу, якія найбольш верагодны ў эпідсезоне*, – тлумачыць загадчыца тэрапеўтычнага аддзялення медыцынскага цэнтра «ЛОДЭ» **Людміла Гулевіч**, *– і з 2010 года, пасля таго як увесь свет быў напалоханы свіным грыпам, штогод у вакцыну сталі ўключаць штам H1N1 – самы распаўсюджаны падтып свінога грыпу. Таму ўсе прышчэпленыя фактычна абаронены ад свінога грыпу. І калі чалавек нават захварэе, то пераносіць грып у разы лягчэй, без цяжкіх ускладненняў у выглядзе пнеўманіі. На мой погляд, падстаў для панікі ў беларусаў няма. Тым больш што сёлета вакцынацыя зноў была маштабнай. І што важна – на прышчэпкі ішлі калектывамі, а гэта дазваляе пазбегнуць хуткага распаўсюджвання віруса.*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

**БЛІЦ**

*Бюджэтам на 2016 год для Міністэрства абароны прадугледжана самае вялікае фінансаванне з усіх сілавых структур – больш за 9 трыльёнаў рублёў.*
*Для параўнання: на сістэму адукацыі з дзяржаўнага бюджэту выдзяляецца 4,4 трыльёна рублёў, на ахову здароўя – 7,2 трыльёна, на культуру 956 мільярдаў, знешняя палітыка (у тым ліку работа ўсіх нашых дыппрадстаўніцтваў за мяжой) будзе каштаваць дзяржаўнаму бюджэту менш за 1,5 трыльёна...*

## 2016 год: на армію – больш за 9 трыльёнаў рублёў
## Гэта апраўдана ці не?



**Павел КАЗЛОЎСКІ, былы міністр абароны Беларусі:**

– Цяжка ацэньваць канкрэтныя лічбы, не ведаючы сённяшнія патрэбнасці Міністэрства абароны. Але калі ацэньваць тэндэнцыю – тое, што фінансаванне большае, чым у іншых сілавых структур, то так і павінна быць. Бо армія мае больш складанае ўзбраенне, ваенная тэхніка больш складаная ў абслугоўванні, і гэтак далей. Але наколькі дастатковая выдаткаваная сума, мне сказаць цяжка.



**Валерый КОСТКА, фермер, былы падпалкоўнік КДБ:**

– Я лічу такія велізарныя траты на абарону неапраўданымі. Моцнай дзяржаву робіць не зброя і нават не армія, моцнай дзяржаву робіць разумная знешняя палітыка і эканоміка. Ні з кім не сварыцца, не ўцягвацца ў чужыя канфлікты, не ствараць на сваёй тэрыторыі ніякіх чужых ваенных баз – вось што павінна быць асновай знешняй палітыкі Беларусі. Нам ніхто не вораг – ні Польшча, ні Расія, ні Літва, ні Украіна. З гэтага і трэба сыходзіць. Мы не павінны нават ставіць сабе мэту – ваяваць, не павінны імкнуцца ўзброіцца да зубоў. Грошы трэба ўкладаць у адукацыю, ахову здароўя, перспектыўныя інвестыцыйныя праекты, патрыятычнае выхаванне. Нацыянальна свядомыя, здаровыя і адукаваныя беларусы – вось што павінна быць нашай галоўнай зброяй. А хворым і дурным колькі зброі ні дай – толькі шкоды наробяць.

Моцныя краіны не ваююць. Краіны, што людзі: у бойку кідаюцца толькі тыя, хто мае комплекс непаўнавартаснасці. Той, хто моцны, вырашае праблемы іншымі метадамі.

Я лічу, што ў сучасных умовах грошы трэба выдаткоўваць на антытэрор, на забеспячэнне грамадскай бяспекі, на памежныя войскі, на стварэнне сістэмы спецслужбаў, якая абараняла б інтарэсы грамадзяніна і дзяржавы, а не інтарэсы вертыкалі ўлады. А калі ўжо казаць пра нашу армію, то яшчэ вялікае пытанне – на што канкрэтна ідуць грошы, выдаткаваныя на абарону. Па крайняй меры ваенныя стогнуць: зарплаты ўпалі, пенсіі ўпалі, тэхніка – толькі ў тэлевізары сучасная. І я супраць такой палітыкі.

**Яўген ІЕЎЛЕЎ, архітэктар:**

– Магу задаць сустрэчнае пытанне. А якія дасягненні мае беларуская армія за 25 гадоў свайго існавання? Хіба што збіты паветраны шар з людзьмі!

Просценькі тэст на абараназдольнасць наша армія не прайшла: помніце, як праляцеў шведскі самалёцік праз усе нашы заслоны нават незаўважаным і скінуў плюшавых мішак на Мінск? А маглі ж скінуць і на рэзідэнцыю ў Драздах, маглі скінуць і не мішак... Таму лічу, што ўсе гэтыя трыльёны, якія выдзяляюцца, усе гэтыя ваенныя парады, якія праводзяцца, – пустое ўсё... Хоць, як я разумею, для некаторых асоб гэта добры бізнес. Па крайняй меры адзін з маіх добрых прыяцеляў працуе пры расійскім віцэ-прэм'еры па абароннай прамысловасці Дзмітрыі Рагозіне і добра ведае нашых "дзеячаў ад абаронкі". Не буду распаўсюджваць чуткі, але, паверце: некаторыя, прысмактаўшыся да беларускай арміі, сталі вельмі і вельмі нябеднымі людзьмі.



**Валерый ШЧУКІН, капітан 2-га рангу:**

– Мне цяжка сказаць, многа гэта грошай ці, наадварот, мала ў разліку на тую армію, якую мы маем. Можа, і мала. Іншая справа: навошта нам увогуле такая колькасць сілавых структур – і армія, і ўнутраныя войскі, і некалькі спецпадраздзяленняў, і памежнікі, і КДБ, і міліцыя?..

Я лічу, што Беларусі ахоўваць незалежнасць і парадак трэба не за кошт колькасці сілавікоў, а за кошт іх якасці.

Калі гаварыць пра армію, то я – за кампактную прафесійную армію. Прызыў на тэрміновую вайсковую службу – гэта на самай справе для краіны вельмі дарагая "радасць". Кожныя год-паўтара трэба вучыць новых людзей аднаму і таму ж. І пры гэтым усе цудоўна ведаюць, што за паўтара года падрыхтаваць добрага спецыяліста проста нерэальна (хіба што можна навучыць строем хадзіць ды на турніку падцягвацца). Мы на флоце і за тры гады не заўсёды маглі стаць прафесіяналамі, а каб падрыхтаваць сапраўднага аса, трэба як мінімум пяць гадоў.

На мой погляд, невялікая армія з прафесіяналаў – гэта ў выніку значна больш танна і ў той жа час значна больш эфектыўна. Я – за кадравую армію.



**Антон СУРАПІН, журналіст, 20 лістапада 2015 года вярнуўся з тэрміновай вайсковай службы:**

– На мой погляд, такія траты неапраўданыя. Сам пабыўшы там, магу сказаць, што вайсковыя штаты вельмі раздзьмутыя, начальнікаў у арміі – адзін на адным. Так што як мінімум трэба задумацца аб больш эфектыўным расходаванні сродкаў, якія выдзяляюцца, аб ролі і колькасці кантрактнікаў, якія сёння працуюць у арміі, – іх на самай справе нямала, і заробкі іх немаленькія.

З другога боку, каб салдаты сапраўды чамусьці навучыліся, каб не ў тэорыі, а на практыцы маглі, як кажуць, і зброю патрымаць, і пастраляць, патрэбны грошы. І грошы немалыя. Напрыклад, у тых жа самаходных установак вельмі вялікі расход паліва, бо ваенная тэхніка – тэхніка з моцнымі рухавікамі. Дык палічыце, колькі грошай нашай арміі трэба на адно толькі паліва!

**Алена НОВІКАВА.**

**ВЕРНИСАЖ**

## Билет «на Бакста» стоит купить заранее

Известный меценат и собиратель утраченного культурного наследия – «Белгазпромбанк» готовится показать белорусской публике свой новый международный артпроект. На этот раз проект посвящен творчеству Льва Бакста, уроженца Гродно и, по мнению современников, самого модного художника театра в Европе после Первой мировой войны, звезды парижских «Русских сезонов», который не уступал в славе даже танцовщику Нижинскому. По решению ЮНЕСКО 150-летие со дня рождения Льва Бакста внесено в Список памятных дат.

Артпроект «Время и творчество Льва Бакста» откроется 10 февраля в Национальном художественном музее. Но билеты на выставку можно приобрести заранее, буквально с сегодняшнего дня! Они стоят от 25 до 50 тысяч рублей.

Что мы увидим на выставке? Шесть произведений художника, приобретенных на европейских аукционах и возвращенных на родину в 2014–2015 годах, поступят из корпоративной коллекции «Белгазпромбанка». Остальные 194 экспоната – графические эскизы, костюмы, редкие фотографии, живопись – из коллекции Художественного музея, а также частных собраний Беларуси, Литвы, Латвии, Польши, России. Всего – 200 произведений Льва Бакста и его современников по художественному объединению «Мир искусств».

После Минска артпроект «Время и творчество Льва Бакста» поедет в Вильнюс и Ригу. А завершит свою работу на родине художника – в Гродно.

**Елена МОЛОЧКО.**

**СЛЫШАЛИ?**

## Белорусам с большим стажем и высокими зарплатами увеличили пенсии

С 1 января вступили в силу некоторые нормы указа президента №570 «О совершенствовании пенсионного обеспечения». Так, увеличены пенсии всем, кто достиг общеустановленного пенсионного возраста, за каждый год стажа работы сверх 40 лет (до 45 включительно) у мужчин и сверх 35 лет (до 40 лет включительно) у женщин.

Увеличение составило от 0,1 (за первый год из пяти) до 0,5 процента (за последний) среднемесячного заработка пенсионера, принятого для исчисления пенсии. Если заработок меньше средней заработной платы работников, применяемой для корректировки фактического заработка пенсионеров, то увеличение будут производить исходя из 0,7 процента средней заработной платы работников.

«Это повышение касается абсолютно всех работников с указанным длительным стажем – и кто уже вышел на пенсию, и кто выйдет в будущем», – пояснила заместитель начальника главного управления пенсионного обеспечения Минтруда и соцзащиты **Лариса Яшкова.**

Есть хорошие новости и для тех, у кого большой стаж и высокая зарплата. При исчислении пенсий заработок в пределах от 130 до 500 процентов средней заработной платы работников учитывается в размере 10 процентов. Эта норма касается всех, кто имеет стаж работы 36 лет и более у мужчин и 31 год и более у женщин.

«Это означает, что максимальный индивидуальный коэффициент заработка, учитываемый для исчисления пенсии при длительном стаже работы, увеличен до 5,0. Раньше предел был 4,0. Для пенсионеров, которые имеют коэффициент выше 4,0, такая мера выгодна, поскольку их пенсия будет увеличена», – рассказала Лариса Яшкова.

При этом людям, занятым на подземных работах и на работах на поверхности, связанных с подземными работами, этот заработок учитывается в размере 20 процентов, а занятым длительное время на подземных и открытых горных работах – в размере 30 процентов.

(Tut.by)

